www.nv-online.info

# Народная Воля

№ 5 (4154)

17 студзеня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***



ВІЗІТ

## Ці будзе Лукашэнка прадаваць Егіпту «паланэзы»?

*Падчас візіту ў Егіпет **Аляксандр Лукашэнка** асабліва адзначыў зацікаўленасць беларускага боку ў развіцці супрацоўніцтва дзвюх краін у ваеннай сферы. Эксперты лічаць, што егіпецкі рынак для беларускага ваенна-прамысловага комплексу можа быць вельмі перспектыўным.*



### «Мы вам пакажам нашы магчымасці»

Пасля перамоў у Каіры прэзідэнта Егіпта **Абдэль Фатах аль-Сісі** і Аляксандра Лукашэнкі было падпісана дзесяць дакументаў аб развіцці супрацоўніцтва ў розных сферах. У прыватнасці, Беларусь і Егіпет пагадзіліся сумесна працаваць над заключэннем пагаднення аб свабодным гандлі паміж Еўразійскім эканамічным саюзам і Егіптам, а таксама займацца “прасоўваннем знешнегандлёвых інтарэсаў адзін аднаго”.

Пра падпісанне дакументаў у ваеннай сферы не паведамляецца. Але вядома, што Аляксандр Лукашэнка асабіста сустрэўся з міністрам абароны і ваеннай прамысловасці Егіпта **Седкі Сабхі** і выказаў спадзяванні, што той наведае Беларусь.

“Мы вам пакажам нашы магчымасці. Калі вам тыя тэхналогіі, якія ў нас ёсць, прымальныя, будзем разам працаваць. Думаю, мы знойдзем шмат тэм для супрацоўніцтва”, – адзначыў Лукашэнка падчас асабістай сустрэчы з міністрам.

### «Паланэз» будзе карысны для егіпецкай арміі»

Ваенны аглядальнік **Аляксандр Алесін** у інтэрв’ю Радыё Свабода адзначыў, што Беларусь мае добрыя перспектывы ў плане супрацоўніцтва з Егіптам у ваенна-прамысловай галіне.

*“Беларусь даўно працуе ў Егіпце. Прычым, як гэта ні парадаксальна, прыватныя прадпрыемствы абсталяваліся нават раней, чым дзяржаўныя. Напрыклад, прадпрыемства “Мінатор-сэрвіс” выйграла некалькі тэндараў на рамонт бронетранспарцёраў егіпецкай арміі (гэтыя бронетранспарцёры яшчэ 1950-х гадоў былі, і там адбывалася перастаноўка рухавікоў ды іншых прылад) – гэта быў кантракт на сотні мільёнаў долараў. Акрамя таго, разам з расійскімі абароннымі прадпрыемствамі ў рамках фінансава-прамысловай групы “Абараняльныя сістэмы” была праведзена мадэрнізацыя зенітна-ракетных комплексаў С-125 “Пячора”. То бок мы там працуем даўно, і думаю, што супрацоўніцтва можа працягнуцца менавіта ў сферы зенітна-ракетных узбраенняў і радыёлакацыйных станцый. Акрамя таго, Беларусь можа падзяліцца сваім досведам вытворчасці беспілотных авіяцыйных апаратаў – прычым там ёсць перадавыя распрацоўкі, патрульныя ўдарныя беспілотныя апараты тыпу “камікадзэ”, якія распрацоўвае наш Фізіка-тэхнічны інстытут пры Акадэміі навук. Нашы прадпрыемствы маюць праграмы мадэрнізацыі не толькі бронетранспарцёраў, але і іншых відаў бранятэхнікі, якая знаходзіцца на ўзбраенні Егіпта, а таксама авіяцыйнай тэхнікі. У перспектыве, думаю, магчыма і наладжванне зборкі аўтамабіляў ваеннага ўзору – як МАЗа, так і Мінскага завода колавых цягачоў (МЗКЦ) непасрэдна ў Егіпце. Ну і яшчэ адзін вялікі пласт супрацоўніцтва – магчымая падрыхтоўка персаналу ў рамках нашай Ваеннай акадэміі.*

*Таму гэты рынак нам знаёмы, і я думаю, што нашы прадпрыемствы не толькі дзяржаўнага, але і прыватнага сектара змогуць там паспяхова супрацоўнічаць з егіпцянамі”*, – кажа ваенны эксперт.

Алесін лічыць, што Беларусь можа наладзіць продаж Егіпту новай ракетнай сістэмы залпавага агню «Паланэз», прынятай на ўзбраенне беларускага войска ў 2016 годзе. Тым больш што міністр абароны **Андрэй Раўкоў** раней ужо заяўляў пра тое, што «паланэзы» могуць ісці ў тым ліку і на экспарт.

*“Безумоўна, рэактыўная сістэма залпавага агню “Паланэз” будзе карысная для егіпецкай арміі. Я ведаю, што егіпцяне выказваюць вялікую цікавасць да мадэрнізацыі менавіта ракетна-артылерыйскіх сістэм, і я думаю, што гэтая сістэма мае рынкавыя перспектывы ў Егіпце”*, – кажа эксперт.

Прычым Алесін лічыць, што Мінск хутчэй захоча прадаваць егіпцянам не тэхналогіі, а менавіта гатовыя комплексы «Паланэз».

*“Я думаю, што больш выгадна будзе прадаваць гатовыя вырабы, гатовыя “паланэзы”. Наўрад ці егіпцяне будуць у стане наладзіць вытворчасць саміх ракет, бо мы толькі нядаўна асвоілі гэтую вытворчасць ракет на Дзяржынскім электрамеханічным заводзе. Таму я думаю, што будуць гатовыя сістэмы. Гэта больш выгадна, бо апошні прадавец атрымлівае ўвесь прыбытак»*, – тлумачыць эксперт.

### «За Судан Беларусь неаднойчы дакаралі»

Пасля візіту ў Егіпет Лукашэнка накіраваўся ў Судан – з гэтай краінай Беларусь гандлюе ваеннай тэхнікай з 1990-х гадоў.

У 2000-х ваеннае супрацоўніцтва дзвюх краін набыло скандальную афарбоўку. На сайце WikiLeaks у справаздачах міжнародных праваабарончых арганізацый, а таксама ў розных заходніх СМІ неаднойчы з’яўляліся паведамленні пра тое, што Беларусь прадала Судану ваенную тэхніку ў абход рэзалюцый Савета Бяспекі ААН ад 2004-га і 2005 гадоў, якія забараняюць пастаўкі зброі ў сувязі з грамадзянскай вайной у краіне.

Афіцыйны Мінск не адмаўляў пастаўкі ваеннай тэхнікі ў Судан, але настойваў на тым, што рэзалюцыі Савета Бяспекі ААН не парушаліся – зброя ў ахопленую вайной правінцыю Дарфур не трапляла.

Канфлікт у Дарфуры, што трывае з 2003 года, паводле ацэнак ААН, забраў жыцці 300 тысяч чалавек. ЗША і шэраг міжнародных арганізацый прызналі дзеянні суданскіх улад у Дарфуры генацыдам.

*“За Судан Беларусь неаднойчы дакаралі, але нічога даказана не было. Казалі, што мы пастаўлялі туды авіяцыйную тэхніку, якую здымалі ў сябе з узбраення, – гаворка ішла і пра штурмавікі Су-25, і пра бамбавікі Су-24. Нашы спецыялісты ўдзельнічалі там у абслугоўванні гэтай тэхнікі. Былі звесткі, што па прыватных кантрактах разам з пілотамі іншых краін СНД беларускія пілоты ўдзельнічалі там у ваенных дзеяннях. Былі звесткі таксама, што прадаваліся ў Судан боепрыпасы. Гэта значыць, супрацоўніцтва было, але гэта ў асноўным быў гандаль узбраеннем з арсеналаў былой Беларускай вайсковай акругі. Цяпер, думаю, ёсць перспектывы ў рамонце і мадэрнізацыі той тэхнікі, якая пастаўлялася ў Судан не толькі Беларуссю, але і Украінай і Расіяй. Ну, і маюць рынкавую перспектыву нашы сістэмы радыёэлектроннай барацьбы і зенітна-ракетныя ўзбраенні”*, – лічыць ваенны аглядальнік.

(Радыё Свабода.)

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

## Левая рука и правая нога

Есть такой фильм эпохи моей педагогической юности – «Сказка про влюбленного маляра», последняя работа великой сказочницы Надежды Кошеверовой. Там Принц, которого играет минчанин Дмитрий Иосифов, чтобы доказать свою королевскую кровь, должен одновременно повращать левой рукой вправо, а правой ногой влево. Попробуйте, друзья мои. Одновременно.

Белорусское государство с упорством, непонятным собственным гражданам, пытается одновременно решить две противоположные задачи: с одной стороны, продолжить запугивание собственных граждан, с другой – доказать всему миру, что оно совсем даже белое и пушистое, а потому с ним можно и даже стоит иметь дело. 12 января, аккурат под Старый Новый год, стало известно о том, что заключенному Андрею Бондаренко угрожает еще один срок. За злостное неповиновение администрации тюрьмы, где Бондаренко отбывает заключение.

Конечно, администрация места лишения свободы – это как раз та инстанция, против которой хочется поднять восстание, выйти на площадь или просто накатать «телегу» в Комитет по правам человека ООН. Проблема в том, что срок у Андрея истекает 31 марта 2017 года. По себе знаю: тебе еще срок не выдали, а ты палочками на листе бумаги отмечаешь дни, проведенные в заключении. Был бы выдан срок – сидел бы и эти самые палочки зачеркивал, делая все, от тебя зависящее, чтобы быстрее выпустили. Немного, но все-таки, зная господина Бондаренко лично, убежден: он, конечно, человек вспыльчивый, но вовсе не сумасшедший и накручивать самому себе срок пребывания за решеткой, в темнице сырой, явно не станет. Бондаренко прагматик, но никак не безумец.

В чем же дело?

Наш мозг, чтобы пройти проверку для Принца, должен одновременно направить двум конечностям человеческого организма два импульса. Левой руке – крутиться вправо, правой ноге – соответственно, влево. Это трудно – мозгу того, кто называется Homo Sapiens. Но белорусское государство, во-первых, не Homo: оно абсолютно бесчеловечно, чему свидетельством является упорный отказ ввести хотя бы мораторий на смертную казнь. Во-вторых, оно не Sapiens, ибо действует, руководствуясь не какими-то разумными доводами, а звериными инстинктами. Вот и в данном случае: разумным, казалось бы, выходом из клинчевой ситуации с Бондаренко было бы выпустить его на свободу, раз уж даже наши правозащитники не видят в нем политзаключенного. Но – нет. Человека нужно сломить, уничтожить, раздавить морально! И за два с половиной месяца до истечения срока появляется информация о том, что высока вероятность продления лишения свободы на законных, казалось бы, основаниях: за нарушение режима исправительного учреждения.

Будь у нас действенный гражданский контроль за системой государственного насилия, я был бы вынужден признать, что случается, когда такие основания существуют. Но у нас гражданский контроль не только за пенитенциарной системой – вообще за государством начисто отсутствует!

Мне кажется, что разные органы белорусской власти руководствуются разными импульсами, исходящими из того здания, которое можно назвать «головным мозгом» страны. МИД, как бы я ни относился к Владимиру Макею лично, искренне хочет максимальной интеграции Беларуси в Европу. Так сказать, правая нога пытается крутить влево. Но и приказа системе исполнения наказаний никто не отменял – и левая рука продолжает крутить вправо, завинчивая гайки по отношению к тому, кто находится по ту сторону решетки. И в данном случае это не объяснишь злой волей одного человека, на которого все привыкли всё списывать. Система объективно «заточена» под отсутствие коллективной ответственности за общий результат: каждому приходится отвечать только за свой участок. Поэтому если теоретически у министра иностранных дел Владимира Макея может возникнуть потребность разобраться в количестве лиц, считающихся политзаключенными и пребывающих у нас по ту сторону решетки, то глава департамента исполнения наказаний генерал-майор Сергей Дорошко – даже теоретически – работой МИД интересоваться не обязан. Его дела – не иностранные, а внутренние.

То есть правая нога крутится сама по себе, а левая рука – сама по себе. Это не Лукашенко мстит Бондаренко. Это система мстит Лукашенко, дурацки исполняя то, что считает его пожеланием.

Почему так? Наверное, потому, что он сам не знает, чего хочет, с какой ноги он встал и какой рукой собирается подкручивать гайки.

РЭДКІ ВЫПАДАК

## Як Уладзімір Арлоў і Павел Татарнікаў чатыры гадзіны давалі аўтографы

*У нядзелю ў Мінску адбылася аўтограф-сесія аўтараў кнігі «Айчына: маляўнічая гісторыя. Ад Рагнеды да Касцюшкі» пісьменніка **Уладзіміра Арлова** і мастака **Паўла Татарнікава.** Каб атрымаць аўтограф, некаторым давялося больш за гадзіну стаяць у чарзе!*
*“Даўно не стаяў у такіх вялікіх чэргах, тым больш за кнігамі”, – заўважыў гісторык Зміцер Дрозд.*
*“Прыйшлі каля гадзіны, каб набыць новую кнігу Уладзіміра Арлова, – чарга. Пагулялі да дзвюх – чарга. Паабедалі, прыйшлі каля трох – чарга і не думае змяншацца!” – пісалі ў сацыяльных сетках.*
*“Спадар Арлоў аж увапрэў, пакуль усім падпісаў, – адзначыла Алена Гушча. – Мусіў зняць пінжак!”*

– Сапраўды, мы чатыры гадзіны падпісвалі кніжкі, – *распавёў **Уладзімір Арлоў** “Народнай Волі”.* – Дакладней, я падпісваў, а Павел Татарнікаў маляваў: хлопчыкам і мужчынам – “Пагоню”, а дзяўчынкам і жанчынам – птушачку. Падпісалі прыкладна 250 кніжак.

**– Дык такімі тэмпамі на сустрэчах з чытачамі ўвесь наклад кнігі і разыдзецца!**

– У прынцыпе, хацелася б, каб кніжка трапіла не толькі да мінскіх чытачоў. Безумоўна, будуць прэзентацыі ў іншых гарадах. Ёсць ужо запрашэнні з Гродна, Брэста, Полацка, Віцебска. Мы з Татарнікавым спадзяёмся, што на гэтыя прэзентацыі кніжак яшчэ хопіць. Але па ўсім выглядае, што будзе дадатковы наклад.

**– Па цяперашніх часах тыраж у тры тысячы асобнікаў – гэта не жартачкі. Некаторыя вядомыя пісьменнікі і 500 асобнікам рады. А тут, як я разумею, нават немалы кошт кнігі людзей не спыняе...**

– Так, у абвестцы пра першую аўтограф-сесію было пазначана, колькі каштуе кніга, і людзі прыходзілі, ужо заціснуўшы грошы ў кулак. Прыходзілі нават з маленькімі дзецьмі, якія пыталіся: “Дзядзя, гэта вы робіце кнігі?” Было, канешне, вельмі кранальна.

**– Можа, яшчэ нейкія незвычайныя пытанні задавалі?**

– Там такая напружаная сітуацыя была, асабліва не да размоў. Чатыры гадзіны мы з Татарнікавым, амаль не разгінаючыся, падпісвалі кнігі. І нават калі мерапрыемства па часе падыходзіла ўжо да завяршэння, яшчэ чалавек 50 у чарзе стаялі!

Дарэчы, мы з Паўлам адзначылі, наколькі цікавыя ў многіх беларускіх дзяцей імёны. Былі Дамінікі і Багданы – і хлопчыкі, і дзяўчынкі, Караліны, Адэлі, Ясь прыйшоў адзін (у мяне, дарэчы, унук таксама Ясь), былі дзеткі з двайнымі імёнамі – гэта вядомая традыцыя ў нашых беларускіх каталіцкіх сем’ях. Прыходзілі бацькі з дзеткамі, бабулі-дзядулі з унукамі.

**– Вы кажаце, што “Айчына” – гэта кніга для ўсёй сям’і...**

– Пры нашым сярэднестатыстычным узроўні гістарычных ведаў, я думаю, кніжка сапраўды для ўсіх.

**– У інтэрнэце напісалі, што пасля гэтай аўтограф-сесіі ў вас з Татарнікавым рукі ледзь не адваліліся...**

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*



КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Пакараюць за тое, што выводзіў з запою

Доктар аднаго з мінскіх медцэнтраў падпольна выводзіў людзей з запою, прыязджаючы да іх дамоў. Супраць яго ўзбуджана крымінальная справа.

Пахмелле раніцай – як кара,
Я гэта знаю па сабе.
Душа (над ёю вісне хмара)
І цела (гэткая ж ахвяра)
Паміж сабою ў барацьбе.
Душа звяртаецца да цела,
Папрокі сыплюцца, як град:
– Чаму нажрацца закарцела,
Заліць у глотку гэты яд?
У выніку занылі ныркі,
А печань зноў адчула боль:
Яе, няшчасную, на дзіркі
Пабіў пракляты алкаголь.
Нібы стары калгасны трактар,
"Матор" зачмыхаў і зароў,
Затым, як звар'яцеўшы,
раптам
Пачаў ганяць па жылах кроў.
Жахлівыя –
прызнацца сорам! –
Рабілі выбрыкі глузды.
Гаспадара псіхічна хворым
Ледзь не прызналі ўсе тады.
Ну і язык, само сабою,
Пасмакаваўшы грамаў сто,
Пачаў даваць адразу збоі –
Плявузгаць людзям абы-што.
-- Пакінуць я цябе хацела
І ўжо на выхадзе была... –
Вось так душа ўшчувае цела,
Як тое цела – з "пахмяла".
А цела не маўчыць таксама
І агрызаецца парой:
– Дык гэта ж ты вяла
да крамы,
Калі паганым быў настрой!
З нагоды нейкае смылела,
Маркоцілася ты, душа, –
З насмешкай папракае цела, –
Дык на сябе зірні спярша...
Ну, словам,
між душой і плоцццю
З пахмелля гэтакі раздрай,
Што гаспадар –
як сучка ў плоце,
Хоць ты кладзіся й памірай.
Тым больш ён зведвае пакуту,
Як заліваў сабе ў гарляк
"Чарніла" – існую атруту,
А не гарэлку ці каньяк.
Крыху лягчэй бывае ўранку
Трываць, глядзець
на белы свет,
Калі налье гарэлкі шклянку
Сяброўка, цешча ці сусед.
А што, калі запой на тыдзень?
Яго не вылечыш як бач,
І шклянка "лекаў" не падыдзе.
Тут дапаможа толькі ўрач.
Не ўсе агораюць дарогу
Да паліклінік ці бальніц.
Зашыўшыся ў сваю бярлогу,
Ляжаць яны, як трупы, ніц.
Інтэлігентны хтось не хоча
Выносіць з хаты перагар,
Не хоча, каб чужыя вочы
Убачылі азызлы твар.
У гэткім разе будзе лепей,
Калі да хворага дамоў
Са шпрыцам завітае лекар
І "выпусціць дурную кроў".
Аднак такога Айбаліта
З аддзела строгія дзядзькі
Скруцілі, як таго бандыта,
На рукі ўздзелі кайданкі.
Патрапіць, мусібыць, за краты
За псіхатропы доктар той:
Тых, хто каторы
дзень паддаты,
Лячыў падпольна наркатой.
Наш справядлівы суд,
магчыма,
Яму "па поўнай" упячэ.
А будзе там суддзёй жанчына,
Дык звыш таго дадасць яшчэ.

* * *

Калі б судзіў
прысяжных тузін,
Дзе пераважна мужыкі,
Не рваў бы ён, як грэлку Тузік,
А даў бы ўмоўна год які...

МУДРЫЕ МЫСЛИ



## «Если тебе плюют в спину, значит, ты впереди»

*Великий китайский мыслитель Конфуций учил правилам отношений людей в социуме. Иногда не помешает вспомнить некоторые жизненные уроки философа.*

1. Неважно, как медленно вы идете, до тех пор, пока вы не остановитесь.
2. Никогда не заводите дружбу с человеком, который не лучше вас самих.
3. Когда ты разгневан, думай о последствиях.
4. Если очевидно, что цели не могут быть достигнуты, не корректируйте цели, корректируйте действия.
5. Если ты ненавидишь – значит, тебя победили.
6. Благородный человек предъявляет требования к себе, низкий человек предъявляет требования к другим.
7. Чем бы вы ни занимались в жизни, делайте это всем своим сердцем.
8. Давай наставления только тому, кто ищет знаний, обнаружив свое невежество.
9. Несдержанность в мелочах погубит великое дело.
10. Если тебе плюют в спину, значит, ты впереди.

**Собрал Феликс КУПРИЯНЕНКО.**

ВАЧЫМА МАСТАКА

*Днямі Міністэрства адукацыі агучыла змены, якія плануецца ўнесці ў новую рэдакцыю Кодэкса аб адукацыі. Калі папраўкі ў Кодэкс будуць прынятыя, то ісці ў першы клас дзецям можна будзе з 5 гадоў. Павялічыцца напаўняльнасць школьных класаў да 30 вучняў, а таксама ў суботу будуць праводзіцца факультатывы для вучняў не толькі 9–11-х, але і 5–8-х класаў.*




Малюнак Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

ПРАПАНОВА

## Годна ўвекавечым памяць слынных сыноў Беларусі!

Дарагая рэдакцыя газеты "Народная Воля"!

З задавальненнем прачытаў у газеце паведамленне аб тым, што аргкамітэт па стварэнні партыі "Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя" пачаў збор подпісаў за перайменаванне праспекта Дзяржынскага ў Мінску ў праспект Адама Станкевіча – беларускага каталіцкага святара, літаратуразнаўцы, пісьменніка, дзеяча беларускага Адраджэння 1920–1930 гадоў. Без ваганняў далучаюся да гэтай вялікай слушнай прапановы. Лічу, што імя Адама Станкевіча павінна быць годна ўвекавечана. Праспект Дзяржынскага цалкам падыходзіць для такога перайменавання. Бо дакуль жа мы будзем шанаваць імёны Дзяржынскага, Свярдлова, Кнорына, Мяснікова і ім падобных? Што ўжо тут казаць пра Леніна–Энгельса–Маркса?

Набліжаецца 950-годдзе нашага слаўнага горада. Адным з першых князёў Мінскага княства быў Глеб Усяслававіч. Вядомы ён і пад імем Глеба Менскага. Прапаную перайменаваць вуліцу Мяснікова ў вуліцу Глеба Менскага.

І яшчэ некалькі прапаноў. Вуліцы Маркса вярнуць назву Падгорная, вуліцы Энгельса – Петрапаўлаўская, вуліцы Камсамольскай – Феліцыянаўская. Вуліцу Леніна перайменаваць у вуліцу Адама Міцкевіча, вуліцу Кнорына – у вуліцу Князя Рагвалода, вуліцу Калініна – у вуліцу Князёўны Рагнеды, вуліцу Ландара – у вуліцу Сафіі Слуцкай, вуліцу Лібкнехта – у вуліцу Генадзя Карпенкі, вуліцу Куйбышава – у вуліцу Міхала Клеафаса Агінскага, вуліцу Суворава – у вуліцу Андрэя Тадэвуша Касцюшкі, вуліцу Панамарэнкі – у вуліцу Ларысы Геніюш, Кастрычніцкую плошчу – у плошчу Кастуся Каліноўскага, вуліцу Чырвонаармейскую – у вуліцу Яўгеніі Янішчыц, вуліцу Фрунзе – у вуліцу Шпітальную, вуліцу Розы Люксембург – у вуліцу Валянціны Мінскай. Вуліцу Свярдлова разам з Маякоўскага перайменаваць у праспект Незалежнасці. Сучаснаму праспекту Незалежнасці вярнуць імя Францішка Скарыны. Гэта будзе дарэчы і да юбілею нашай сталіцы, і да 500-годдзя з дня выдання першай кнігі Біблії на роднай мове.

На гэтым, бадай, і закончу. Шчыра жадаю Вам, дарагія сябры, моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту, поспехаў у вашай нястомнай працы на карысць роднай Беларусі, Божай дапамогі ў добрых справах!

Ваш пастаянны чытач (з 1996 года) і верны сябра –

**Сяргей ГЕРАСІМЧЫК.**

*Мінск.*

СТОП-КАДР



**Вясёлая зіма**

На горцы ў адным з мікрараёнаў Мінска.

Фота TUT.BY

ПИСЬМО В РЕДАКЦИЮ

## Обидели заслуженных людей

В одно время при ЖЭС-72 Советского района г.Минска был организован Совет ветеранов. Им отвели небольшое помещение. Прежние постояльцы оставили эти комнаты в плачевном состоянии. Пришлось привести помещение в надлежащий вид. Создали что-то вроде клуба по интересам, в основном из женщин-рукодельниц. Руководителем этого коллектива стала Лидия Ивановна Паркулевич. Сюда стали приходить женщины, проживающие не только в Советском районе, но и в других районах столицы.

Помещение оформили картинами, поделками, выполненными руками членов клуба. Они проводили мастер-классы по разным видам творчества, обменивались журналами, книгами, поздравляли именинников.

Надо сказать, что члены этого коллектива в основном пенсионного и предпенсионного возраста. Для них, уже вырастивших детей, внуков, очень важно общение, возможность показать и оценить поделки, сделанные своими руками. Совет ветеранов ЖЭС не раз предоставлял возможность мастерицам участвовать в выставках «50+».

Но вот кому-то приглянулось это помещение. Последовало распоряжение его освободить. И от кого вы думаете?! От А.Л.Кононовича, председателя Совета ветеранов всего Советского района г.Минска. Но Л.Паркулевич отказалась отдавать ключи. Можно представить себе состояние членов клуба, если учесть, что это достойные и пожилые люди, не заслуживающие такого хамского отношения.

Руководитель Совета ветеранов ЖЭС-72 В.А.Плещикова после этого инцидента обратилась в вышестоящую ветеранскую организацию, но пока ничего не добилась. Считаю, что уважаемым людям нанесена большая моральная травма. Их лишили возможности встречаться, заниматься любимым делом, скрашивая непростую, а у многих и одинокую старость.

Надеюсь, в исполкоме все же не оставят мое письмо в редакцию без внимания. Помогите!

**Евгения Михайловна РОКАШЕВИЧ, член клуба.**

ГЛАС НАРОДА

## Чаусские мстители

В декабре минувшего года я оформила пенсию. У меня 27 лет трудового стажа. Это несмотря на то, что приходилось досматривать сына-инвалида с детства, которому уже 23 года.

Казалось бы, какие могут быть вопросы ко мне у государства? Но у наших местных бюрократов они нашлись. Можете представить, на днях прислали «письмо счастья», то есть зачислили меня в категорию тунеядцев. Какое нужно иметь черствое сердце, чтобы «порадовать» меня таким оскорбительным письмом! Мало того, что я всю жизнь страдаю с ребенком-инвалидом, так я еще имею 20 соток земли, за которые плачу налоги. Не пью, ни курю, в милиции на учете не состою, то есть являюсь законопослушной гражданкой.

Да, в 2015–2016 годах я не могла работать официально, так как у меня были очень большие проблемы с сыном. Не дай Бог кому-нибудь пережить то, что я пережила. Но что до этого чаусским чиновникам? Александр Лукашенко сказал, что в каждом конкретном случае нужно индивидуально подходить к рассмотрению вопроса о тунеядстве. Если бы у нас следовали этому совету, то не оскорбили бы меня до глубины души.

Я, конечно, догадываюсь, почему мне прислали «письмо счастья», обвинив в тунеядстве. По характеру я человек принципиальный, если вижу безобразия – обязательно скажу об этом публично. Вот за мою позицию и мстят мне чаусские бюрократы.

**Людмила Владимировна КУДРЯШОВА, жительница города Чаусы Могилевской области.**

ДЗЯКУЙ!

## У душы любоў жыве, і надзея сэрца грэе...

...калі ў нашай газеты ёсць такія шчырыя прыхільнікі, як ***Зінаіда Раманаўна Сянько*** з г.Мазыра Гомельскай вобласці. На працягу многіх апошніх гадоў рэдакцыя атрымлівае ад яе цёплыя віншавальныя паштоўкі. І не толькі. Яна сваімі зберажэннямі дапамагае выпісаць "Народную Волю" тым, хто з-за беднасці сам гэтага зрабіць не можа.

Шчыры дзякуй Вам, дарагая Зінаіда Раманаўна, ад усяго калектыву газеты! Узаемна віншуем Вас і Вашу сямейку з Новым годам, які цвёрдай ступою ідзе па нашай любай старонцы, а таксама з Калядамі! Каб у Вашым доме заўсёды былі здароўе і дабро, а надзея няхай грэе сэрца!

Ад імя рэдакцыі –

**Ніна ЛЯВОНЧЫК, загадчыца рэдакцыі газеты "Народная Воля".**

БЫЛЬ

## Бык Дэпутат

Дзеду Піліпу Канапельку пад 90 ужо, а яго добрай памяці ды светламу розуму толькі пазайздросціць можна. Расказвае такія яскравыя эпізоды свайго жыцця, такія гумарыстычныя, павучальныя гісторыі, што і маладога за пояс заткне.

Працаваў ён пасля вайны ў калгасе, потым пракладваў дарогі, будаваў масты, а перад пенсіяй ды ўжо атрымаўшы яе вартаваў рыбу, карміў карпаў у адной з дзяржаўных сажалак мясцовага рыбгаса "Светлая зорка", што побач з яго роднай вёскай Кахановічы.

І вось якраз пасярод лета, у ліпені, здарылася з ім гэтая незвычайная гісторыя. На досвітку Піліп Іванавіч, пад'ехаўшы на веласіпедзе да складскога памяшкання, загрузіў у службовы катамаран пад самыя барты камбікорм і пачаў, адпіхнуўшыся ад берага вяслом, сыпаць корм шуфлем па абодва бакі лодкі. Трэба было бачыць, як скакала вакол катамарана ўдзячная вартаўніку рыба, як плямкала, раз-пораз паблісквацючы сярэбранай лускай пад першымі агністымі промнямі сонца...

"Бачыш ты, ну акурат як галодная дзятва ў час вайны", – гаварыў сам сабе Піліп Іванавіч, любуючыся воднай роўнядззю даверанай яму сажалкі, удыхаючы на ўсе грудзі здаровую ранішнюю прахалоду і ў душы пачуваючы сябе паважаным, клапатлівым загадчыкам вялікага дзіцячага садка-ясляў. "А што, абы-каму не давераць дзяржаўнае дабро вартаваць..."

Пакарміўшы ўжо добра нагуляўшых вагу запушчаных яшчэ з вясны гадаванцаў, дзядуля прымкнуў катамаран да ладнага залацістага ствала сасны-прыгажуні, што ўвесь час любавалася сваім адлюстраваннем у вадзе, з апетытам з'еў заслужаны сняданак і, ямчэй падклаўшы пад бок і галаву ватоўку, прыдрамаў. Ён добра ведаў, што пасля ранішняга сытнага кармлення рыба не вельмі пойдзе на розныя хітрыкі рыбаловаў-браканьераў...

Паціху шумеў вецер у вершалінах сосен, мірна пераклікаліся між сабою галкі. Але ад сну вартаўніка спачатку абудзіў гул матораў, а затым рэзкія галасы людзей. Канапелька, узяўшы ў ахапак целагрэйку, бо сонца ўжо добра прыпякала, падаўся ў той бок.

– Здароў, абарыген! Адкуль ты тут узяўся?

На паляне ў дзесяці метрах ад берага стаялі аж тры легкавікі, і ладная кампанія з маладых мужчын і кабет, якія скінулі з сябе верхнюю вопратку, ужо пачала піраваць. На вялікім абрусе стаялі пляшкі каньяку і гарэлкі, піва і мінеральнай вады, была раскладзена багатая закуска. Тыя, што выпілі, ужо выцягвалі з багажнікаў вуды і спінінгі і накіроўваліся ў бок сажалкі.

– Я тут на службе вартаўніком, а сажалка гэта дзяржаўная, таму даю вам 20 хвілін на зборы, – пагрозліва прамовіў дзед Канапелька, які ў вайну прайшоў і партызанку, і фронт, таму застрашыць яго чым-небудзь было цяжка.

Тым часам падагрэтая спіртным кампанія віравала, нібы ўзбуджаныя пчолы ў вуллі, і мора ім было па калена.

Верхаводзіў, па ўсім відаць, высокі загарэлы мужчына ў вялізным капелюшы, нібы ў самбрэра.

– Якая служба, якая дзяржаўная сажалка? Дзе тут шыльда, дзе тваё пасведчанні? Не дуры, дзед! Ідзі з намі лепей перакулі каньяку чарку-другую. А мы на юшку пару вёдзер вылавім – і па руках. Згода?

Дзеля праўды варта адзначыць, што на той час і сапраўды не існавала ў рыбгасе такіх немалаважных атрыбутаў, як шыльды і пасведчанні. З'явіліся яны пазней пасля такіх вось інцыдэнтаў.

– Калі вы зараз разам са сваімі машынамі не пакінеце бераг, – быў няўмольны дзед, – то я зараз паклічу Дэпутата!

З боку прыезджай кампаніі раздаўся дружны рогат:

– Якога дэпутата? Усе дэпутаты – нашы лепшыя знаёмыя і сябры. Ты хоць, дзед, ведаеш, дзе мы працуем?

А ўся штука была ў тым, што непадалёку адсюль, на лужку, у атачэнні бяроз і сосен грыз маладую зялёную траўку дзедаў ладны бык па мянушцы Дэпутат. Піліп Іванавіч нават яго і не прывязваў: той далёка ад гаспадара не адыходзіў і прыбягаў па першым яго поклічы.

– Дэпутат! Дэпутат! – зычна крыкнуў у бок лесу вартаўнік Канапелька.

З гушчару выскачыў здаравенны бугай і, пабачыўшы незнаёмых людзей, апусціў долу лабастую галаву з налітымі чырванню вачыма, капануў зямлю з усёй сілай, а потым рыкнуў так, што, мабыць, і ў дзедавых Кахановічах пачулі. Прыезджыя адразу аслупянелі ад нечаканасці і перапуду, шклянкі і вуды пападалі з іх рук. Дэпутат трушком накіраваўся ў іх бок, і тады кожны зразумеў увесь магчымы вынік такой непажаданай сустрэчы. Хто кінуўся ў бок сажалкі, хто стралою памчаў у бок вёскі. Страляла, нібы аўтамат, пад нагамі ламачча, а жанчыны крычалі на ўсё наваколле такімі галасамі, нібы іх рэзалі.

З-за далёкай сасны паказаўся той мексіканскі капялюш.

– Дзед, бяры што хочаш, толькі адгані быка...

Піліп Іванавіч пагладзіў свайго надзейнага Дэпутата, адвёў яго на ранейшае месца, а вярнуўшыся, прыхапіў з сабою дзве бутэлькі гарэлкі і ладны калач каўбасы. "Хай і ў мой гарляк кропля трапіць, усё ж такі, што ні кажы, а перахваляваўся трохі, ліха іх бяры!"

У рэкордна кароткі час бераг сажалкі стаў пусты.

**Сяргей КУЛАКЕВІЧ.**

*г.Жыткавічы.*



З НАГОДЫ

## Шчаслівa, пан Абама!

«На працягу апошніх 25 гадоў ты была не проста маёй жонкай і маці маіх дзяцей. Ты заставалася маім лепшым сябрам», – гэтыя словы Барак Абама сказаў у развітальнай прамове на адрас Мішэль.

Чытаў неяк, што ў маладосці Барак Абама меў манеру раскідваць па хаце брудныя майкі ды шкарпэткі. Жонка, задзяўбаўшыся з гэтай нагоды (і, баюся, не толькі з гэтай), здаралася, не размаўляла з мужам, а пісала яму запіскі. А Барак, чытаючы іх, крыўдаваў: я, маўляў, думаю пра тое, як свет палепшыць, а ты да мяне сунешся з нейкімі шкарпэткамі!

Не ведаю, як вам, шаноўныя чытачы, а мне падабаецца гэткі тып людзей.

Але тады гэта быў малады юрыст. Стаўшы прэзідэнтам і маючы для гэтага пэўныя магчымасці, не дужа, па праўдзе кажучы, ён свет палепшыў. Але ж, дзякуй Богу, і не надта згадзіў. Дый наогул не згадзіў, па праўдзе, а многае і зрабіў.

Баюся, што пры Дональдзе Трампе давядзецца яшчэ не раз згадваць Абаму добрым словам.

*«Мы не можам адмовіцца ад барацьбы за дэмакратыю, правы чалавека, правы жанчын і ЛГБТ ва ўсім свеце. Якімі б недасканалымі ні былі нашы намаганні – гэтак мы абараняем Амерыку. Змаганне супраць экстрэмізму, ксенафобіі, міжканфесійнай варожасці і шавінізму – вельмі блізкае да змагання супраць аўтарытарызму і агрэсіі. Калі ў свеце скарачаюцца свабоды і парушаецца перавага закону, дык узрастае небяспека вайны паміж дзяржавамі»* (з развітальнай прамовы Б.Абамы).

І – асабліва ўлічваючы, хто прыйшоў на змену, – вельмі шкада, што ён сыходзіць.

Гэта, канешне, асобная тэма. Аднак нездарма ж Абама і на апошняй у сваім прэзідэнцтве прэс-канферэнцыі, і ў гэтай прамове столькі казаў пра амерыканскія каштоўнасці і важнасць іх захоўвання: гэта значыць ён адчувае небяспеку. Нездарма ж пуцінцы дапамагалі Трампу (наколькі гэта паўплывала на вынік выбараў, невядома, але сам факт шмат пра што сведчыць).

Расійскі аналітык Уладзімір Абарынаў, які жыве ў Нью-Ёрку, разважаючы пра сістэму стрымак і супрацьваг, якая ў кожным выпадку не дасць Трампу «адбіцца ад рук», выказвае хваляванне: «Насамрэч эфектыўнасць сістэмы падзелу ўлад – гэта вынік канвенцыі. А Дональд Трамп – парушальнік канвенцый. Праз чатыры гады амерыканцы могуць проста не пазнаць сваю краіну».

Не, я не думаю, што Трамп кінецца ў абдымкі да Пуціна. Але ў тым, што правам і свабодам чалавека (і ў саміх ЗША, і тым больш па ўсім свеце) Трампава адміністрацыя будзе надаваць значна менш увагі, сумненняў амаль няма.

І мы ўжо бачым, што еўрапейскія палітыкі заклікаюць Трампа не праяўляць мяккасці да Расіі, не пакідаць па-за пільнай увагай Украіну...

З Абамам было наадварот: ён падштурхоўваў еўрапейскіх лідараў да больш рашучых дзеянняў.

Шчаслівa, пан Абама! Good luck!

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ – спецыяльна для "Народнай Волі".**

У СУСЕДЗЯЎ

## Польскі бурштын упрыгожыць кітайскіх жанчын

Польска-кітайская суполка "Еўрапейскі фонд энергіі" знайшла на Памор'і вялікія радовішчы бурштыну.

Здабыча яго пачнецца ў першым квартале гэтага года. Пераважная частка бурштыну будзе прадавацца ў Кітаі.

Паводле геалагічных даследаванняў, знойдзены бурштын самай высокай якасці, вельмі запатрабаваны ў Кітаі. Акрамя Кітая, польскі бурштын будзе прадавацца таксама ў Ізраіль.

ІХ ПРАБЛЕМЫ

## Што рабіць з нечаканымі даходамі бюджэту?

Нямецкія дэпутаты вырашаюць, што зрабіць з нечаканымі даходамі бюджэту памерам 7 мільярдаў еўра. Бюджэт гэтага года быў сфарміраваны са значным прафіцытам, піша газета «Bild». На думку журналістаў, гэта заслуга міністра фінансаў Нямеччыны **Вольфганга Шойбле.**

Раней было вырашана, што сродкі з прафіцыту будуць накіраваны на вырашэнне міграцыйнага крызісу. Аднак у спецыяльным фондзе ўжо назапашана 13 мільярдаў еўра, якія так і не былі выкарыстаны з-за значнага скарачэння колькасці мігрантаў. Калі ў 2015 годзе ў Нямеччыну прыбылі 890 тысяч чалавек, то ў мінулым годзе – толькі 280 тысяч.

Таму, хутчэй за ўсё, грошы будуць накіраваны на выплату дзяржаўных даўгоў і ўмацаванне грамадскай бяспекі.

СКАНДАЛ

## Президент Сербии заявил о готовности ввести войска в Косово

Он заявил об этом после того, как провалилась попытка отправить из Белграда на север Косова поезд «Железных дорог Сербии» («Железнице Србије») с надписью «Косово – это Сербия».

Распоряжение остановить поезд в сербском поселке Рашка отдал премьер-министр Сербии Александр Вучич. Он сказал, что пошел на такой шаг, чтобы «сохранить жизнь и свободу людей, предотвратить еще больший конфликт и показать, что мы хотим мира».

Вучич обвинил косовских силовиков в попытке заминировать железнодорожное полотно на пути состава Полиция Косова отвергла эти обвинения, подчеркнув, что проверила пути и не нашла там взрывчатки. Несмотря на заявление президента, конфликт между Сербией и Косова маловероятен, сообщает корреспондент Би-Би-Си из Белграда.

Сербия уже достигла значительного прогресса в переговорах о возможном вступлении в состав Европейского Союза. Нормализация отношений с Косово – важная часть этого процесса.

Однако Белград хочет привлечь внимание международного сообщества к тому, что Приштина не выполняет полностью уже достигнутые договоренности, в том числе и по вопросу о свободе передвижения.

ТАМ, НА АПЕННИНАХ

## Протесты в Италии: «Бюрократия хуже землетрясения»




Десятки жителей итальянских городков Аккумоли, Пескара и Тронто вышли на акцию протеста. Они возмущены тем, как медленно идет восстановление и реконструкция районов, разрушенных в результате землетрясения, произошедшего 24 августа прошлого года. Его жертвами стали 295 человек. Тысячи остались без крова.

"Бюрократия убивает больше, чем стихия!" – восклицали участники манифестации. Улицы по-прежнему не расчищены от завалов, дома не приводятся в порядок. Вмешалась в ситуацию и погода. Из-за холодов приостановлены и те работы, которые велись. Многие пострадавшие обитают сейчас в курортных резиденциях на Адриатическом побережье. Но люди хотят вернуться домой.

ТРАГЕДИЯ

## В крушении грузового Boeing 747 в Киргизии погибли десятки человек

Как минимум 37 человек погибли при падении грузового самолета Boeing 747 на дачный поселок под Бишкеком. В результате катастрофы, по данным МЧС, были повреждены или полностью разрушены 32 дома.

«Самолет пытался совершить посадку с запада на восток, однако по каким-то причинам не смог этого сделать и, вероятно, хотел уйти на второй круг», – сообщили в МЧС Киргизии.

Самолет летел из Гонконга в Стамбул через Бишкек.

У НИХ

## Съездила за счет государства – освободи кресло министра

Министр здравоохранения и спорта Австралии Сьюзан Ли совершила несколько служебных поездок, в ходе которых, как выяснилось, она занималась не государственными делами, а поисками недвижимости на курорте Голд-Кост в штате Квинсленд. Это стоило ей должности. В результате разгоревшегося скандала она ушла в отставку.

ВЗГЛЯД С ЗАПАДА

## Кремль будет с интересом наблюдать за выборами во Франции и Германии

*Британские эксперты о жизни Путина и России в 2017 году*

2016 год, по мнению наблюдателей, оказался в целом удачным для Владимира Путина: благодаря собственным решениям или везению, он получил практически все, чего желал.

А 2017 год? Что принесет он президенту, а заодно и стране, ибо, по знаменитому выражению нынешнего спикера Думы Вячеслава Володина, Путин – это и есть Россия?

Прогнозами делятся британские эксперты.



**Эндрю ФОКСОЛЛ, директор Центра изучения России Общества Генри Джексона (независимый аналитический центр при Кембриджском университете):**

– В смысле внешней политики 2016 год был, вероятно, самым удачным для Владимира Путина за все его годы у власти.

Он вновь утвердил Россию в роли ключевого игрока на Ближнем Востоке. Запад начал демонстрировать признаки раскола в украинском вопросе. На референдуме в Британии победили сторонники выхода из ЕС. Откровенно пророссийский политик был избран президентом Соединенных Штатов.

Правда, своими успехами Путин обязан не столько себе, сколько действиям или бездействию других. Полагаю, та же тенденция сохранится и в 2017 году.

Внешняя политика Кремля останется нацеленной на подрыв и разрушение, а не на созидание чего-либо.

По всей вероятности, 2017 год станет для Путина годом начала очередной президентской кампании. На предыдущих выборах у него не имелось реальных соперников, и, по всей вероятности, так же будет в 2018 году. В системе, которую выстроил Путин, выборы скорее декорация, чем реально судьбоносный момент

Главный вопрос, на который пока нет ответа: действительно ли он много выиграет от прихода в Белый дом Дональда Трампа?

Пока не очевидно, чего Трамп хочет от Путина.

Более ясно, чего Путин хочет от Трампа: принять как данность переписывание Россией международного права и существовавших до сих пор норм поведения на мировой арене; если не формально признать, то по крайней мере закрыть глаза на аннексию Крыма; отменить или хотя бы сократить американские санкции; сотрудничать на Ближнем Востоке.

Вряд ли Путин получит все перечисленное, но кое-что получить он может.

При этом непонятно, чего взамен потребует Трамп и что предложит ему Путин.

Будут ли в наступающем году сняты западные санкции? Это зависит в основном от развития событий в США.

Смысл санкций не только в наказании России, но и в демонстрации единства Запада, как европейского, так и трансатлантического. Если американские санкции будут сворачиваться, европейские также окажутся под вопросом.

Кремль, несомненно, будет с интересом наблюдать за всеобщими выборами во Франции и Германии. Если во втором случае перемен не ожидается, то во Франции оба ведущих кандидата – и Франсуа Фийон, и Марин Ле Пен – настроены к России более благосклонно, чем нынешний президент Франсуа Олланд.

У Москвы есть основания надеяться, что новое руководство в Париже смягчит жесткую позицию Ангелы Меркель, прежде всего в вопросе санкций.

При всем влиянии, которое Россия имеет на Дамаск, единолично обеспечить урегулирование в Сирии она не может. Вероятно, в 2017 году мы увидим дальнейшие переговоры с двумя другими игроками, Ираном и Турцией, которые поддерживают противоположные стороны конфликта

Ничего нового я не жду в Украине. Скорее всего, этот год принесет продолжение хрупкого перемирия и вялых обсуждений.

Москва и Киев по-разному понимают Минские соглашения. Для Украины главный пункт – восстановление ее контроля над границей, для России – автономия Донбасса в таком виде, какой для Киева неприемлем.

Вероятно, российская экономика в новом году если не возобновит рост, то хотя бы остановит падение.

Это не сможет замаскировать глубоких структурных проблем: уровень жизни снижается, количество бедных и безработных растет.

Экономика, как и в предыдущие годы, будет нуждаться в диверсификации и реформах, но вот на это надежды мало.

**Крис УИФЕР, эксперт по России, инвестиционный аналитик (с 1998 года живет в Москве, в данный момент возглавляет консалтинговую компанию Macro Advisory):**

– Владимир Путин встретил Новый год на таком благоприятном фоне, какого не было, пожалуй, с 2013-го – последнего года мира в Украине.

Приход новой администрации в США, возможные политические перемены во Франции, нерешенные проблемы Лондона и ЕС в связи с «брекситом» – все это так или иначе означает ослабление внешнего давления на Москву.

Последние три года президент Путин занимался в основном международными делами. Сейчас у него появится возможность посвятить больше времени и усилий внутренним проблемам, прежде всего экономике.

Соглашение между Россией и ОПЕК о снижении нефтедобычи, даже если в реальности этого не случится, несколько подтолкнет вверх нефтяные цены. В 2017 году это, вероятно, даст российскому бюджету дополнительно от 10 до 20 миллиардов долларов – как пойдет дело.

Если Путин во втором полугодии потратит эти деньги на социальные программы, повышение зарплат бюджетников и пенсий, это существенно снизит давление на него в преддверии выборов 2018 года.

Конечно, в жизни случаются сюрпризы, но я практически не сомневаюсь, что в наступающем году Путин официально заявит о намерении баллотироваться на следующий срок.

Вариант, при котором он назначит преемника, а сам станет кем-то вроде бывшего сингапурского лидера Ли Куан Ю, маловероятен.

Во-первых, это противоречит русской политической традиции.

Во-вторых, преемника, способного консолидировать элиты, в окружении Путина не видно.

В-третьих, миссия Путина не закончена.

За 16 лет он добился фактически всего, чего хотел, в сфере политики, но экономика пребывает в большом беспорядке.

По ожиданиям экспертов, в 2017 году она выйдет на рост, но очень слабый и не закладывающий прочных основ для будущего.

Путин, несомненно, думает о своем месте в истории, а для этого он должен оставить Россию более сильной не только в военном и геополитическом плане, но и с более крепкой экономикой. Нужны модернизация всей экономической модели, реформы пенсионной и налоговой систем и социальных расходов.

Хочется надеяться, что Путин воспользуется появившимися возможностями и всем этим займется.

По поводу санкций я был бы осторожен в прогнозах. В 2017 году мы, скорее всего, увидим не их отмену, а постепенное формирование условий для этого, возможно, частичное смягчение к концу года, прежде всего в финансовом секторе.

Дональд Трамп, может, и хотел бы быстрее двигаться навстречу России, но в США президент не единственный человек, который принимает решения. В своих действиях он ограничен Конгрессом, а там сильным влиянием пользуются яркие политики резко антироссийской направленности. По каждому шагу ему придется договариваться с сенаторами и что-то предлагать им взамен.

Скорее всего, Трамп предоставит инициативу в этом деле Евросоюзу.

Украину в 2017 году, вероятно, ожидают внутриполитические потрясения. Юлия Тимошенко и ее партия «Батькивщина», по данным опросов, набирающие популярность, усилят давление на президента Порошенко с целью добиться досрочных выборов в Раду. В таких условиях ждать прогресса по Донбассу не приходится: Киеву будет просто не до этого.

По моим ощущениям, Кремль вполне устраивает сохранять ситуацию в нынешнем виде, наблюдать за развитием событий в Украине и возобновить реальный торг только после выборов в Раду.

Будем надеяться, что в 2017 году Сирия станет поставлять меньше агрессивных и тревожащих новостей и, соответственно, меньше поводов для конфронтации между Россией и Западом.

**Артем КРЕЧЕТНИКОВ.**

(Би-Би-Си.)

